Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

vglybokaye@tut.by

№40 (600) 6 кастрычніка 2011 года.
Кошт свабодны.


Залатая восень.

## Браслаўскі раён

# Намераў добрых шмат

■ Чэслаў Якубовіч

**Дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу і цудоўнай прыродзе, Браслаўскі раён становіцца ўсё больш прыцягальным для суседзяў і патэнцыйных інвестараў.**

Падчас правядзення днямі ў райцэнтры III Міжнароднай інвестыцыйнай канферэнцыі па трансгранічнаму супрацоўніцтву азёрны край падпісаў дагавор аб супрацоўніцтве з адміністрацыяй самакіравання Вісагінскага раёна Літвы. Цікавасць да Браслаўшчыны праявілі і расіяне з Іванаўскай вобласці. Акрамя іх інвестары з Прыбалтыкі і Польшчы выказваюць намеры рэалізаваць тут цікавыя праекты па будаўніцтву для браслаўчан сучаснага гандлёвага цэнтра і гатэля і ўстаноўцы на вызначаным высокім месцы ветраэнергетычнай устаноўкі. У папярэднія гады раён таксама падпісаў яшчэ шэраг падобных дакументаў і зараз у рознай стадыі ажыццяўлення знаходзяцца 27 такіх праектаў. У раёне замежныя бізнесмэны ўзводзяць завод будматэрыялаў, рухаецца справа па будаўніцтву санаторыя на водах у вёсцы Відзы-Лаўчынскія. Аб’ём укладзеных толькі сёлета інвестыцый з-за мяжы за 8 месяцаў перавысіў 139 млрд. рублёў. Удзельнікі канферэнцыі праявілі цікавасць да мадэрнізацыі дзеючага завода па вытворчасці рыбных кансерваў, наведалі падчас яе практычнай часткі новае прыдарожнае кафэ і аграсядзібу шматпрофільнай фермерскай гаспадаркі “Віталіч”.

## Пастаўскі раён

# Кінулася пад цягнік

■ Кастусь Александровіч

**Чамусьці апошнім часам нашы суайчыннікі розных узростаў перастаюць даражыць найдаражэйшым Боскім дарам – сваім жыццём.**

Вось і ў Паставах яшчэ не паспела забыцца нядаўняя трагедыя летам, калі напіліся моцнага піва дзве дзяўчынкі на кватэры адной з іх. У выніку ўспыхнула спрэчка, справа дайшла да бойкі, якая завяршылася гібеллю вучаніцы СШ № 5. А праз два месяцы выбухнула новая бяда. На гэты раз на адчайны крок рашылася вучаніца 11-га класа мясцовай СШ № 2. Позна вечарам паблізу ад чыгуначнага вакзала ў райцэнтры пад коламі праходзячага з Лынтуп пасажырскага цягніка да Віцебска Насця К. знайшла сваю пагібель. Да рашэння скончыць жыццё самагубствам яе падштурхнулі шэраг абставін. Дзяўчына зусім нямнога не дажыла да 17 гадоў і самае сумнае, што была цяжарная. Аднак у яе сям’і абстаноўка была не вельмі спрыяльнай. Не ладзілі паміж сабой бацькі, урэшце рэшт развяліся, стала прыкладвацца да чаркі і маці. Як было ўстаноўлена падчас папярэдняга разбіральніцтва па гэтай справе, магчымай прычынай гэтага трагічнага здарэння стаў чарговы сямейны канфлікт. Таксама, як на грэх, нешта не заладзілася ў адносінах загінуўшай дзяўчыны са сваім каханым хлопцам. У такім узросце юнацкая псіхалогія яшчэ крохкая і розныя жыццёвыя ўзрушэнні не пераносіць. У любым выпадку ўжо нічога не паправіць і шкада нават двух загубленых жыццяў.

## Полацкі раён

# Ёсць гаспадары ў глыбінцы

■ Станіслаў Раманчук

**Не сакрэт, што нягледзячы на вялізныя намаганні дзяржавы, моладзь не імкнецца заставацца жыць і працаваць у сельскай мясцовасці.**

Аднак, як у кожнай тэндэнцыі, ёсць і прыемныя выключэнні, што прадэманстраваў абласны фінальны этап конкурса “Валадар сяла”. Праходзіў ён днямі на базе аграгарадка Гараны, што ў Полацкім раёне, і сабраў цудоўным днём бабінага лета нават 19 маладых вясковых сем’яў з розных куткоў вобласці. Праўда, гаспадары гэтых мерапрыемстваў з Полаччыны выставілі нават 5 сваіх сямейных дуэтаў і змаглі зрабіць гэты дзень цікавым і запамінальным і для гасцей старажытнай полацкай сям’і. Ужо ў першым конкурсе-прэзентацыі “Сялянская хата ўсім багата” журы вельмі спадабалася кампазіцыя з дарамі саду і фаршыраваным парсючком на фоне самавара і герба райцэнтра, якую прыдумалі Наталля і Уладзімір Кабякі з Мёрскага раёна. Наталля ў далейшым добра праявіла сябе і ў наступным выпрабаванні “Гаспадыня двара”, яна лёгка змагла справіцца з канём і распрагчы потым конную павозку. Як муж, бацька 10-гадовага сына і 4-гадовай дачкі паказаў сябе ўмелым касцом і аратым на адведзеным кавалку зямлі. І ў іншых конкурсных выпрабаваннях сям’я Кабякоў была ў групе лідараў і ў выніку заваявала ганаровае званне лепшай маладой сельскай сям’і Віцебшчыны разам з каштоўным падарункам, наборам бытавой тэхнікі за перамогу ў конкурсе. Яна неўзабаве паехала ў Маладзечна, дзе і прайшоў аналагічны рэспубліканскі фінал падчас чарговых “Дажынак-2011”.



# Лічба нумара

**55 млн. USD** - столькі валюты, па дадзеных статыстыкі, набыў Нацыянальны банк Беларусі напрыканцы верасня толькі за 3 дні працы на дадатковай гандлёвай сесіі на біржы. Штодзень айчыннае тэлебачанне і дзяржаўныя СМІ сталі паведамляць аб тым , як стаў беларускі рубель раптам умацоўвацца. Вось толькі гэта ні ў якім разе не азначае, што сур’ёзны валютна-фінансавы крызіс пачаў у нас пераадольвацца. Зніжэнне рэальных даходаў беларусаў сёлета настолькі відавочнае, і дэвальвацыя айчыннай валюты адразу на 56 % так проста не праходзяць, рост цэн не думае спыняцца.

Насельніцтва не дужа радуе, што замежная валюта праз паўгода зноў з’явілася ў абменніках, а чорны валютны рынак адышоў у цень. Тым часам курс долара ЗША на дадатковых таргах на БВФБ знізіўся ніжэй узроўню 8 тысяч руб/$ і прадаўжаў падаць, а большасць айчынных экспарцёраў спяшаліся хутчэй прадаць заробленую валюту. У выніку Нацбанку РБ не прыйшлося праводзіць таварныя інтэрвенцыі на біржы і абмяжоўваць заяўкі ўдзельнікаў таргоў па аперацыях продажу/пакупкі валюты. Прапановы долараў, еўра і іншых валют у сярэднім у 2 разы перавышалі попыт на іх.

Сталі і банкі актыўна скупляць валюту ад насельніцтва ў абменных пунктах, пачалі расці і валютныя дэпазіты фізічных асоб. А вось прырост рублёвых рахункаў беларусаў прыкметна зменшыўся, хоць і выраслі стаўкі рэфінансавання, але і адначасова працэнты за карыстанне банкаўскімі крэдытамі. Тым не менш, ва ўрадзе разлічваюць дзесьці ў канцы кастрычніка выйсці на адзіны курс беларускага рубля. Запланавалі на фоне гіперінфляцыі і дэвальвацыі рост зарплаты бюджэтнікаў. Акрамя павышэння тарыфнай стаўкі 1-га разраду, мяркуецца з 1 лістапада ўвесці дадатковыя даплаты прапарцыянальна па кожнаму з разрадаў адзінай тарыфнай сеткі.

А ці не выкліча гэта новы скачок цэн і магчымае новае аслабленне беларускага рубля? Спецыялістаў непакоіць, што ў нас ідзе напампоўванне эканомікі пустымі папяровымі грашыма.Толькі ў 1-м паўгоддзі гэтага года грашовая маса ў Беларусі вырасла на 5,7 трлн. рублёў і дасягнула гігантскай сумы 31,2 трыльёны цяпер ужо на 9,468 млн. чалавек насельніцтва. За 8 месяцаў года жыхароў краіны стала меней яшчэ на 13,2 тысяч чалавек, на 20 тысяч колькасць памерлых перавысіла колькасць нованароджаных дзяцей. Толькі ў Мінску расце насельніцтва, ва ўсіх астатніх рэгіёнах яно скарачаецца.

Адначасова і не думае зніжацца дэфіцыт знешнегандлёвага балансу, які за студзень-чэрвень перавысіў 4 млрд. долараў. Па стану на 20 верасня ў Беларусі галапіруючая інфляцыя дасягнула сумнага ўзроўню 67,3 % і не думала спыняцца, бо напярэдзе ацяплляльны сезон і чакаемае павышэнне тарыфаў на камунальныя паслугі. Не паспелі беларусы атрымаць аднаразовую дапамогу для набыцця сельгаспрадукцыі ў памеры каля 60 долараў, як для іх зноў проста адпусцілі цэны на мяса, малако і хлеб.

Ад шакіруючых цэннікаў людзям самы момант з гора закурыць і выпіць, аднак і тут Мінэканомікі “паклапацілася”: у верасні гарэлка падаражэла адразу на 31 %, а асобныя віды цыгарэт – на 40-50 %. У выніку адна ходка ў магазін адразу вымае з кішэні спажыўца да 50 тысяч рублёў, а пенсіянеры за адзін хлеб з малачком і кефірам павінны аддаць каля 10 тысяч. Гэтае бесперапыннае перапісванне цэннікаў проста сведчыць аб поўным правале нейкай асаблівай беларускай “мадэлі” сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Па росце цэн мы пакінулі ззаду ўсе краіны былога СССР ды і, бадай, большасць дзяржаў свету. Некаторыя тавары ў нас падаражэлі ў 3 і болей разы, а па доларавых заробках беларусы абыходзяць адных толькі таджыкаў (яны зарабляюць 90 $ у месяц, столькі, колькі ў нас многія жыхары правінцыі). Цікава толькі , да якіх граніц прадоўжыцца цярпенне простага люду жыць у такіх умовах?

Пакуль жа кіраўніцтва краіны аб’явіла, што з утрыманнем трэба заканчваць не толькі ў сферы сельскай гаспадаркі, але і вялікага спорту. Аднак адначасова было распараджэнне да канца года завяршыць будаўніцтва яшчэ 83 малочна-таварных ферм. У краіне ёсць аптымісты, якія вераць, што нашы калгасы і спартыўныя клубы ўжо гатовы перайсці на самафінансаванне, грошы ўсім было даручана зарабляць самім.

## Надвор’е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 06.10.11 | | | | пятн. 07.10.11 | | | | сб. 08.10.11 | | | | нядз. 09.10.11 | | | | пн.10.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +10 | +12 | +16 | +13 | +13 | +13 | +13 | +9 | +7 | +8 | +12 | +7 | +7 | +8 | +10 | +10 | +12 | +10 | +12 |
| Ціск, мм | 744 | 743 | 741 | 739 | 738 | 737 | 737 | 737 | 738 | 738 | 739 | 740 | 743 | 743 | 738 | 732 | 731 | 733 | 734 |
| Вільготнасць, % | 90 | 91 | 80 | 89 | 88 | 98 | 87 | 91 | 88 | 87 | 59 | 82 | 89 | 94 | 66 | 94 | 95 | 83 | 63 |
| Вецер м/сек | З 5 | Ю-З 7 | Ю-З 8 | Ю-З 6 | Ю-З 7 | Ю-З 5 | Ю-З 4 | Ю-З 4 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 9 | Ю-З 5 | Ю-З 4 | Ю-З 6 | Ю-З 12 | Ю-З 10 | З 7 | З 9 | З 9 |
| | | 07:21 | 18:33 | | | 07:23 | 18:30 | | | 07:25 | 18:28 | | | 07:27 | 18:25 | | | 07:29 | 18:23 | |

## Дзень за днём

**З пачатку года спажывецкія цэны яшчэ напрыканцы верасня выраслі на 70 %, для любога грамадства лічыцца небяспечнай галапіруючая інфляцыя нават 50 %. Ударам пад дых для беларусаў стала новае рэзкае павышэнне закупачных цэн на малако адразу на 55 %, на мяса яшчэ больш – на 62-67 %. Сур'ёзны эканамічны крызіс сарваў сёлета ў Беларусі будаўніцтва жылля ў вялікіх аб'ёмах. Аднак пачаў падаць рынкавы курс замежнай валюты на фоне істотнага росту зноў цэн на хлеб, мяса, малако і на цыгарэты. Ва ўрадзе краіны паведамілі аб перараcліку працоўных пенсій з 1 лістапада.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** На прэзідэнцкіх выбарах на свой трэці тэрмін пойдзе, як і чакалася, прэм'ер Уладзімір Пуцін, якому саступіў месца цяперашні расійскі лідар Дзмітрый Мядзведзеў.

**ЗША.** Паблізу месца тэрактаў 11 верасня ў Нью-Ёрку адкрыўся Ісламскі культурны цэнтр з мячэццю і спортпляцоўкамі, больш 70 % гараджан і амерыканцаў незадаволеныя гэтым.

**Літва.** З прычыны пераследу праваабарончага цэнтра "Вясна" і А. Бяляцкага літоўскі МЗС прапанаваў зрабіць неўязнымі ў ЕС яшчэ 18 беларускіх чыноўнікаў рознага рангу.

**Германія.** Штогадовага "Мінскага форума" для дыялогу з РБ, як заявіў яго старшыня Райнер Ліднер, сёлета не будзе з-за "ўнутрыпалітычных працэсаў" пасля выбараў.

**Швейцарыя.** Прадстаўнік РБ пры аддзяленні ААН Міхаіл Хвастоў заявіў, што Еўрасаюз і Захад не павінны ўказваць беларусам, як яны павінны жыць і куды рухацца надалей.

**Кітай.** Некалькі соцень людзей напалі і разграмілі ў горадзе Луфрэн офіс кампартыі, паліцэйскі ўчастак, пратэстуючы супраць канфіскацыі іх зямель, паранена 10 паліцэйскіх.

**Польшча.** Суд горада Беластока пачаў працэс над 39-гадовым грамадзянінам Беларусі за згвалтаванне 14-гадовай дзяўчынкі і яшчэ 2 такія спробы, яму пагражае 15 гадоў турмы.

**Украіна.** Услед за Расіяй і Беларуссю ўкраінскі парламент прыняў рашэнне аб адмове пераходу на зімовы і летні час, украінцы застаюцца і надалей на летнім вылічэнні часу.

**ЗША.** Улады штата Джорджыя пакаралі смерцю ядамі Троя Дэвіса, асуджанага яшчэ ў 1989 годзе за быццам забойства паліцэйскага, Вярхоўны суд адмовіўся яго памілаваць.

**Кыргыстан.** У сувязі з падрыхтоўкай прэзідэнцкіх выбараў 30 кастрычніка ўлады часова спынілі вяшчанне ўсіх расійскіх тэлеканалаў, а таксама каналаў Бі-бі-сі, Еўраньюс, CNN.

**Італія.** Суд Турына вырашыў канчаткова адабраць 1,5-гадовую дзяўчынку ў яе "занадта старой" маці, якая зацяжарыла штучным апладненнем за мяжой ва ўзросце 57 гадоў.

**Індыя.** Са штата Тамілнад старшакласнікам школ і каледжаў краіны пачалі бясплатна раздаваць наўтбукі, на працягу 5 гадоў такіх 6,8 млн.камп'ютараў атрымаюць усе дзеці.

**Расія.** Губернатар Калінінградскай вобласці Мікалай Цуканаў пацвердзіў, што можа прайсці рэферэндум аб вяртанні гораду яго спрадвечнай гістарычнай назвы Кенігсберг.

**Украіна.** Былы тэлевядучы АНТ Сяргей Дарафееў заявіў, што існуючы ў Беларусі прынцып "хто не з намі, той супраць нас" урэшце рэшт знішчыць беларускую дзяржаву.

**Кіпр.** Прэзідэнт УЕФА Мішэль Плаціні прапанаваў падзяліць турнір Еўра-2016 па футболе на 2 этапы, у фінале чэмпіяната Еўропы ўпершыню згуляюць 24 зборныя.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада РБ Сяргей Румас заявіў аб выхадзе з 3-й дэкадзе месяца (пасля 20 кастрычніка) на адзіны курс беларускага рубля і аб павышэнні зарплат бюджэтнікам.

**Астравец.** Участак плошчай 449,9 гектара паблізу вёскі Баброўнікі ля Вільнюса вызначаны прэзідэнцкім указам месцам узвядзення першай у РБ атамнай электрастанцыі.

**Брэст.** Міжнародны статус атрымаў пункт пропуску "Дамачава-Славатычэ" на беларуска-польскай граніцы, на аб'ект пайшло 50 млрд. рублёў з рэспубліканскага бюджэту.

**Мінск.** У Беларусі пакуль гэта магчыма, заявіла намеснік міністра працы і сацабароны РБ В. Каралёва, будзе захоўвацца дзеючы пенсійны ўзрост, далей магчыма яго павышэнне.

**Магілёў.** Машынабудаўнічы завод скасаваў кантракты з фірмамі Расіі і Казахстана на пастаўкі грузавых вагонаў, каб забяспечыць айчынны рынак, толькі БЧ атрымае іх 500.

**Мінск.** Адстаўку Рыгора Васілевіча з пасады Генеральнага пракурора Беларусі шэраг палітолагаў звязалі з ягонай недастатковай цвёрдасцю ў палітычных справах.

**Маладзечна.** Школы горада зачынілі на цэлы тыдзень з 26 верасня па 1 кастрычніка, каб дзеці і настаўнікі ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы юбілейных "Дажынак-2011".

**Гродна.** На мяжы з Літвой у складзе свабоднай эканамічнай зоны "Гроднаінвест" невялікі пасёлак Прывалка можа стаць новым беларускім курортам, тут ёсць лячэбныя гразі.

**Мінск.** Толькі за межамі сталіцы супрацоўнікі ДАІ спынілі стрэламі шыкоўны аўтамабіль "Крайслер С300", 22-гадовы вадзіцель аўто быў п'яны і не спыніўся для праверкі.

**Белаазёрск.** Упершыню ў горадзе энергетыкаў з'явіўся незвычайны злодзей, які скраў у трох мясцовых жыхароў ... паляўнічых сабак з вальераў, зрываючы ноччу навясныя замкі.

**Салігорск.** Пасля сваркі вечарам дома з жонкай 58-гадовы мужчына ўзняўся на 9-ты паверх, абліўся гаручай вадкасцю і падпаліў сябе, скочыў з акна і загінуў ад удару.

**Барысаў.** Толькі за выхад і ўдзел у групавым этапе Лігі чэмпіёнаў УЕФА, тэлетрансляцыі, трансфер двух ігракоў футбольны клуб БАТЭ ўжо зарабіў болей 10 млн. еўра прыбытку.

**Мінск.** За ўдзел летам у акцыі пратэсту з ліцэя БНТУ выгналі 16-гадовага прэзідэнцкага стыпендыята па фізіцы Рамана Пратасевіча, пагляды сына не падзяляюць і яго бацькі.

**Вілейка.** Каля вёскі Цынцавічы ля возера Вула археолагі на чале з Міхасём Чарняўскім знайшлі каля 20 прылад, пераважна нажоў, стаянкі першабытных людзей эпохі мезаліту.

**Гродна.** Пагранслужба Літвы вярнула ў Беларусь фуру з прычэпам, на якой 50-гадовы ўкраінец перавозіў драўляныя брыкеты з апілак з павышаным радыёактыўным фонам.

**Мінск.** Пасля авіятрагедыі ў Яраслаўлі "Белавія" выдзеліла хакейнаму клубу "Дынама" для палётаў на гульні КХЛ адзін з лепшых самалётаў "Боінг-737" з надзейным экіпажам.

# 1 кастрычніка павялічаны памер дзяржаўнай дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзіцяці



■ Марына Носава, *БелаПАН*

**У Беларусі з 1 кастрычніка павялічваецца памер дзяржаўнай дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзіцяці. Такое рашэнне было прынята ўказам ад 15 верасня № 416 "Аб павелічэнні памеру дзяржаўнай дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзіцяці"**

Указам прадугледжана з 1 кастрычніка 2011 года дзяржаўную дапамогу ў сувязі з нараджэннем дзіцяці, прызначаная ў адпаведнасці з законам ад 30 кастрычніка 1992 года "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей", выплачваць у памеры:

**пры нараджэнні першага дзіцяці** — дзесяціразовай найбольшай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ) у сярэднім на душу насельніцтва за два апошнія кварталы перад датай нараджэння дзіцяці;

**пры нараджэнні другога і наступнага дзяцей** — чатырнаццаціразовай найбольшай велічыні БПМ у сярэднім на душу насельніцтва за два апошнія кварталы перад датай нараджэння дзіцяці.

Новы памер дзяржаўнай дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзіцяці павялічыць расходы бюджэту Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны і рэспубліканскага бюджэту ў 2011–2014 гадах на 1,32 трлн. рублёў.

У 2011 годзе расходы сродкаў бюджэту фонду павялічацца на 71,9 млрд. рублёў. Гэтыя сродкі прадугледжаны ў бюджэце фонду на 2011 год.

Прынццe ўказа скіравана на стварэнне спрыяльных умоў для нараджэння і выхавання ў сем'ях дзяцей, у тым ліку другіх і наступных, а таксама ў цэлым на стабілізацыю дэмаграфічнай сітуацыі, адзначыла прэс-служба Прэзідэнта.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Вобласць стала адзінай у Беларусі, дзе не знайшлі магчымасць прадаставіць падчас акцыі "Дзень без аўто" права бясплатнага праезду па вадзіцельскіх правах.

**Гарадок.** У вёсцы Бычыха ў асвяшчэнні царквы ў гонар вялікамучаніцы Анастасіі ўдзельнічаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт.

**Наваполацк.** З-за жудаснай экалогіі з мясцовай калоніі ў Бабруйск перавялі этапам экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, аднак у ёй засталіся яшчэ 1500 вязняў.

**Орша.** Каля жылога дома пажылая жанчына трапіла пад калёсы МАЗа і памерла праз 2 гадзіны пасля ДТЗ, ля вёскі Ларынаўка ледзь не загінуў веласіпедыст пры наездзе аўто.

**Расоны.** Мясцовае райпо прама ў будынку райвыканкама адкрыла новае кафэ, штодзённая выручка перавышае паўмільёна рублёў, у меню – комплексныя абеды.

**Чашнікі.** Міліцыя затрымала 16-гадовага школьніка з вёскі Вялікія Смальянцы, які абакраў на 2,5 млн. рублёў сельскі магазін, куды залёз праз акно для прыёмкі хлеба.

**Віцебск.** У двух залах ратушы адкрылася выстава мастака Уладзіміра Найбіча "Парк юрскага перыяду" дыназаўраў і насякомых, зробленых ім у натуральную велічыню.

**Полацк.** Позна ноччу ў вёсцы Мацюшы ў выніку пажару ва ўласным доме загінулі маці з дарослым сынам, які на падпітку курыў і па неасцярожнасці выклікаў такую бяду.

**Віцебск.** Пасля вызвалення з расійскай турмы абласны суд пакараў 16 гадамі зняволення гараджаніна за памылковае забойства блізнюка яшчэ ў 2002г.

**Лёзна.** Мясцовы РАУС распачаў крымінальную справу супраць 25-гадовага непрацуючага жыхара вёскі Кляўцы, які сарваў замок, ўкраў з дачнага доміка 100 кг бульбы і 70 кг зерня.

**Наваполацк.** Упершыню ў горадзе адбыўся ў Палацы культуры адкрыты конкурс дзіцячай высокай моды "Kids Couture" з удзелам дызайнераў і вытворцаў адзення Мінска і Гомеля.

**Браслаў.** На канапе сярод абгарэўшай пасцелі знайшлі цела інваліда, які злоўжываў спіртнымі напоямі, яго былая жонка змагла выратавацца з другой паловы жылога дома.

**Віцебск.** Сям'я жыхароў мясцовага заапарка папоўнілася навічком – бурым мядзведзем, праз месяц сюды прывязуць 2-гадовага зубра, набытага з дапамогай спонсараў.

**Паставы.** Райцэнтр стаў адзіным горадам у вобласці, дзе пад эгідай Міжнароднай федэрацыі футбола FIFA прайшоў дзіцячы футбольны фестываль для будучых зорак.

**Віцебск.** Вечарам на платформе чыгуначнага вакзала ўзнік канфлікт, і малады хлопец ударам у галаву забіў мужчыну ўсяго з-за 100 расійскіх рублёў і з'ехаў адсюль на таксі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Японскі гісторык будзе пісаць для японцаў кнігу па гісторыі Беларусі

■ Уладзімір Скрабатун

**Шмат хто наведваў Глыбокае: вялікія князі літоўскія Альгерд і Вітаўт, імператар Напалеон Банапарт, польскі прэзідэнт Ігнацій Масціцкі… А вось прафесар з Токіа, праўдападобна, упершыню.**

У мінулую пятніцу (30.09.2011) патэлефанаваў гісторык і выкладчык Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэту (Вільня) Алесь Смалянчук, жыхар Гродна.

– Хачу, каб Вы мне і прафесару Макота Хаясака паказалі і распавялі пра глыбоцкую царкву і касцёл. Мы зараз выязджаем з Ушачаў, па дарозе завітаем у Бычкі, радзіму Васіля Быкава, а потым будзем у Глыбокім.

Дамовіліся. Чакаю… Сустрэліся ля царквы. Зразумела, папрасіў сфатаграфавацца.

– Вы ж глядзіце, спадар Уладзімір, каб здымак быў у поўны рост! Бо для японца катастрофа, калі ў кадр не трапілі яго ногі,– жартуе ці, насамрэч, сур'ёзна кажа Алесь Смалянчук.

– Добра, што сказалі, а то я ўсе кадры зрабіў да паса! Так бы ў газету патрапілі б! Катастрофа!

Прафесар Макота Хаясака працуе ў Такійскім Тэхналагічным Інстытуце – Аспірантура навукі прыняцця рашэнняў і тэхналогіяў; Навука чалавечых сістэм. Выкладае гісторыю. Збіраецца цягам году напісаць кнігу па гісторыі Беларусі для японцаў. Вось і вандруюць па Беларусі, пачынаючы ад Гродна, два гісторыкі. Неўзабаве запланавана наведванне Полацка.



**Прафесар Макота Хаясака ( 早 坂 眞 理 ), злева і доктар гістарычных навук (2002), выкладчык гісторыі ў ЕГУ (Вільня) Алесь Смалянчук у Глыбокім.** *Фота Ул. Скрабатуна*

Аўтар гэтых радкоў распавёў японскаму госцю гісторыю храмаў: касцёла і царквы.

Заўважна было, што прафесар зачараваны прыгажосцю нашых святыняў у стылі віленскага барока.Зайшлі ў царкву (Кафедральны сабор). Мяне вельмі ўразіла калі прафесар сам указаў на адну з ікон і беспамылкова назваў – Еўфрасіння Полацкая. Зрабіў колькі здымкаў храма і яго інтэр'ераў. Пашанцавала: нам прапанавалі і выдзелілі бясплатнага экскурсавода. Экскурсавод згадала гісторыю храма, паказала і распавяла аб асабліва шанаваных іконах глыбоцкай царквы.

**Макота Хаясака вучыць беларускую мову, каб расказаць японцам пра Беларусь. Ён чытае Купалу, ведае жыціе Еўфрасінні Полацкай ды дзейнасць Льва Сапегі.**

Для "паўнаты ўражанняў" экскурсавод прапанавала спусціцца ў падвалы царквы з запаленымі свечкамі. Пасля доўгіх блуканняў па лабірынтах царкоўных падзямелляў, было ўзыходжанне наверх – у адну з вежаў храма і агляд Глыбокага з вышыні птушынага палёту.

Пасля экскурсіі прафесар захацеў памяняць валюту. Пайшоў у Белаграпрамбанк. Зачынена!

– Не пытанне!– кажу. У нас, у Глыбокім, банкаў не менш, чым у вашым Токіа!

Паехалі на Цэнтральны пляц. Абменны кіёск Белаграпрамбанка таксама – зачынены. Пайшлі ва ўнівермаг, дзе абменны пункт Беларусбанка. Працуе! Аднак, чарга кажа: "Не ставайце! Абменнік зачыняецца".

– У чым праблема?- пытаюся.



**Экскурсавод Людміла Астрэйка расказвае аб асабліва шанаваных іконах глыбоцкага кафедральнага сабора.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

– Камп'ютар заглючыў! – кажа касір.

– Таму, што ён у вас кітайскі, а не японскі,– жартую. (Прафесар смяецца.) Усё ж сорамна будзе за наш горад, калі вы не дапаможаце госцю з Японіі памяняць валюту.

Касір аказалася патрыётам банка і горада. Валюту памяняла.

На гэтым мы фактычна развіталіся, бо ў мяне была яшчэ адна запланаваная сустрэча. Аднак, два гісторыкі вельмі хацелі наведаць і Беразвечча, убачыць тое месца, дзе стаяла царква Пятра й Паўла. Экскурсію ў Беразвеччы правёў Юрый Калбасіч, настаўнік Глыбоцкай СШ№2. І, дарэчы, падмуркі царквы знаходзяцца вонкі калоніі і да іх вольны падыход.

Пасля Глыбокага гісторыкі накіраваліся ў Мядзель, дзе запланавана наведванне тамтэйшага касцёла кармелітаў і начоўка. Потым ізноў вандроўкі па гістарычных гарадах Беларусі.

**P.S.:** Аўтар задаў пытанне Алесю Смалянчуку: «Як там пачуваецца ў ЕГУ наша глыбачанка Надзея Бабіч (Храпавіцкая)?»

– О! Надзея Бабіч! Мая самая лепшая і разумнейшая студэнтка!– рэзюмаваў выкладчык гісторыі ЕГУ.



Экскурсія са свечкамі па падзямеллях Кафедральнага сабора.

# Каля Дзеркаўшчыны знойдзена гоцкая фібула III-V стагоддзя

■ Уладзімір Скрабатун

Не люблю «чорных капальнікаў». Нешта рыюць, шукаюць, знаходзяць, таемна прадаюць абы ніхто не даведаўся... І ўсё сплывае на Ўсход да маскалёў.Ніякага патрыятызму! Так і радзіму можна прадаць за пару баксаў!

Іншая справа нашыя калекцыянеры! Знайшлі рэдкі, альбо раней нечуваны артэфакт – абавязкова падзеляцца навіной з археолагамі.

Вось, напрыклад, знаходкі глыбоцкага калекцыянера Алеся Мядзельца ўпрыгожваюць свaімі ілюстрацыямі некаторыя беларускія гістарычныя выданні. Акрамя таго, нашыя калекцыянеры вельмі часта ездзяць валанцёрамі на археалагічныя раскопкі. Дапамагаюць археолагам.

Пару дзён таму сваю чарговую знаходку паказаў аўтару гэтых радкоў калекцыянер Віктар Майсяёнак. Гэта – гоцкая бронзавая фібула* III-V стагоддзя, якая была знойдзеная недалёка ад Дзеркаўшчыны.

Аўтар патэлефанаваў калекцыянеру Алесю Мядзельцу, які знаходзіцца ў сталым кантакце з археолагамі.

– *Знаходка вельмі рэдкая!*– кажа спадар Мядзелец. *Фібула – гоцкая. Але меркавана насілі яе анты.*

Як пішуць гістарычныя даведнікі – «Анты – старажытны народ, які некаторыя навукоўцы лічаць раннімі славянамі. Яны ўзгаданы гоцкім гісторыкам Іярданам (6 ст.) і візантыйскім гісторыкам Пракопіем Кесарыйскім у працы «Вайна з готамі» (6 ст.).

Паводле Іярдана, анты жылі ў раёне ад Днястра да Дняпра. Разам са склавенамі, паходзілі ад венетаў. Паводле Пракопія, склавены і анты выводзіліся не ад венетаў, а ад варвараў «спораў» («рассеянных па паселішчах»). Від іх у Пракопія апісваецца так: «...Вельмі высокага росту і велізарнай моцы. Колер скуры і валасоў у іх вельмі белы або залацісты...». Склавены і анты Пракопія жылі ў народапраўстве, прызнавалі валадаром над усімі аднаго бога, «творцу маланак». У бітве яны не надзявалі брані, а біліся толькі з дроцікамі і шчытамі».

Археолаг Марат Клімаў, якому патэлефанаваў аўтар, пацвердзіў рэдкасць знаходкі для паўночна-заходняй Беларусі. Падобная фібула была знойдзеная на ўсходзе Беларусі на археалагічным помніку Абідня ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобласці.



Гоцкая фібула V стагоддзя, якую знайшоў калекцыянер Віктар Майсяёнак ў раёне Дзеркаўшчыны.

* **Фібула** (лат. fibula, клямка) — металічная зашпілька для адзення, якая адначасова служыла ўпрыгожваннем. Фібулы разнастайных формаў былі распаўсюджаны з бронзавага веку да ранняга Сярэднявечча.

Цікавасць готаў да фібул звязаная з тым, што ў позняй Рымскай імперыі фібулы служылі знакамі адрознення становішча пры імператарскім двары.

НАРОДНАЯ ПРАГРАМА
www.prahrama.by



**У Беларусі сёння няма суб'ектаў, якія істотна выйграюць ад падвышэння пошлін на іншамаркі. У сітуацыі стабільнасці значны імпульс для развіцця атрымаў бы рынак новых аўтамабіляў. Але пераход да ўніфікацыі мытных пошлін з Расіяй адбываецца ў вельмі неспрыяльных акалічнасцях: уводзіны загараджальных мыт на імпарт ужываных аўтамабіляў само па сабе з'яўляецца шокам для рынка, а ва ўмовах валютнага крызісу, сціскі крэдыту і фактычнай дэвальвацыі рубля сітуацыя пагаршаецца.**

**У найблізкай перспектыве страцяць усе: спажывец, прадаўцы, імпарцёры, дзяржава. Аўтарынак у цэлым пастаўлены на грань выжывання, яго аднаўленне зойме гады. Да аб'ёмаў продажаў 2008 г. (200 тыс. аўтамабіляў) мы зможам вярнуцца не раней, чым праз 8-10 гадоў. Структурна гэта будзе істотна іншы рынак.**

**А што думаюць на гэты конт глыбачане?**

■ **Алена Дуброўка**

# Павышэнне пошлін на іншамаркі

## *Каму гэта выгадна?*

Аўтамабіль даўно ўжо не раскоша: наяўнасць яго дазваляе больш прадуктыўна выкарыстоўваць свой час, як кажуць, хочаш быць мабільным – будзь аўтамабільным. Як і любая патрэбная рэч, ён патрабуе ўкладанняў, але і з'яўляецца прамой або ўскоснай крыніцай даходаў. І не толькі для аўтаўладальнікаў, а і для дзяржавы. Пошліны ад продажу аўтамабіляў складаюць чвэрць усіх мытных паступленняў у бюджэт. У 2010 годзе беларусы імпартавалі 201.8 тыс. легкавушак на суму 1.335 млрд.долараў. Сярэдні кошт адной увезенай машыны – 6.6 тыс. долараў. Нескладана палічыць, колькі валюты атрымала дзяржава, калі мытная пошліна з кожнай іншамаркі склала прыкладна 1000 у.а. Дык каму і, галоўнае, навошта было прыкрываць такую крыніцу даходаў, калі ў краіне няма сваёй вытворчасці аўтамабіляў, тым самым спачатку правакуючы адток валюты з краіны? У імя чаго пакутуе беларускі аўтаўладальнік, які страціў магчымасць набыць аўтамабіль еўрапейскай якасці па даступным кошце? Пытанняў шмат, сваё бачанне выхаду з сітуацыі і адказы на іх дадуць індывідуальныя прадпрымальнікі Аляксей і Вольга, супрацоўнік мытні Вячаслаў і супрацоўніца падатковай інспекцыі Анастасія.

**"ВГ":** Пытанне павышэння кошту на ўвоз іншамарак не абмяркоўваў калі толькі гультай. На вашу думку, чаму дзяржава пайшла на такі крок і ў чыіх інтарэсах павышэнне пошлін?

**Анастасія:** Павышэнне пошлін у інтарэсах Расіі, верагодна, быў націск на Беларусь, і атрымліваецца, што мы падтрымліваем расійскі бюджэт.

**Вольга:** Справа ў тым, што Беларусь усебакова залежыць ад сваёй усходняй суседкі Расіі. Тыя паставілі памер пошліны, бар'ер, пашыраюць расійскі аўтарынак, а ўзамен прадастаўляюць Беларусі энерганосьбіты па льготных коштах. Але вакол газа, нафты, электраэнергіі ўвесь час нейкія спрэчкі, і цяжка меркаваць, наколькі гэтыя кошты для Беларусі льготныя. Таму павышэнне пошлін адназначна ў інтарэсах расійскай аўтапрамысловасці і скіраваны на пашырэнне рынку збыту расійскіх аўтамабіляў.




**Аляксей:** Тое, што расіяне зацікаўленыя ў продажы сваіх аўто, зразумела. Але яны ведаюць і якасць сваіх машын, таму калі ўзнікае пытанне, што купіць – б/у іншамарку або новую "Ладу", то з улікам якасці расійскіх дарог – усё на карысць замежнага. Вось і атрымалася так, што расіяне скуплялі ў нас бензінавыя аўтамабілі.

**Вольга:** Усё і пачалося са скупкі машын: людзі ставяць аб'яву ў інтэрнэт, расіяне забіраюць машыну; потым пачалі вывозіць мяса, зараз адзенне, увогуле, усё падрад.

**Вячаслаў:** Мы настолькі завязаныя на расійскіх энерганосьбітах, што ні кроку ўбок зрабіць не можам. Імкнёмся "выбіваць" нейкія льготы, але ўсё роўна вымушаны ісці на повадзе ў Расіі, нават калі нам гэта не выгадна.

**"ВГ":** Выйграе або прайграе ад рашэння павысіць пошліны беларуская дзяржава? У чым дзяржаўны інтарэс?

**Анастасія:** Купля-продаж іншамарак – залатая жылка для беларусаў. Была, праўда. Якія там падаткі плацілі ІП? Машыны афармляліся на другіх асоб, матэрыяльны дабрабыт пэўнай катэгорыі людзей рос. Гэта і нядрэнна, цяпер жа прайгралі ў першую чаргу спажыўцы і ІП, ну і, канечне, дзяржава, і найперш у тым, што прыбыткаў з растаможкі стала значна меней.

**Вячаслаў:** Выйграла б, калі б была свая вытворчасць якасных аўтамабіляў. Наступствы гэтага рашэння, калі нічога не зменіцца, будуць бачныя гадоў праз 10. Дзяржаўны інтарэс, верагодна, толькі ў льготах на энерганосьбіты.

**Вольга:** Мне здаецца, дзяржава прайграе: шмат валюты ішло з растаможкі, дзесьці 1000 у.а. з машыны. Колькі зараз тых машын пераганяецца ў суткі? 2-3? А вось на чыіх інтарэсах усё гэта замешана, меркаваць цяжка. Хутчэй за ўсё: прытрымлівайся палітыкі, якая ўгодная нам, – і застанешся сядзець у крэсле.

**Вячаслаў:** Год назад праз нашу мытню пераганялі 5-6 машын за суткі, зараз –1-2, у перыяд ажыятажу – па 200, чэргі стаялі.



**"ВГ":** Якія наступствы павышэння пошлін для беларускага аўтарынку?

**Аляксей:** Аўтарынак памірае. Новыя машыны могуць сабе дазволіць адсоткаў 10 беларусаў, індывідуальныя прадпрымальнікі засталіся без работы, цяпер бізнес круціцца вакол запчастак і рамонту таго, што нагналі да ліпеня. Дзяржава не зацікаўлена ў прыватніках. Паглядзіце на прыдарожны сэрвіс – дзяржаўны і прыватны: вялікая розніца, дзяржаўны не працуе.

**Вольга:** Мы абараняем чужы аўтарынак, прадаём дзяржаўную маёмасць. Неўпрыкмет можам зноў аказацца Паўночна-Заходнім краем Расіі і будзем лыпаць вачыма: калі гэта здарылася?

**Вячаслаў:** Усё замарозілася. У нас прывязка да Расіі, яны ўсё роўна скінуць пошліны, але не да ўзроўню 2010г.

**"ВГ":** Ці магчымы перагляд рашэння аб пошлінах? Што для гэтага неабходна? Што могуць зрабіць беларускія грамадзяне для абароны сваіх інтарэсаў?

**Вольга:** А хто нас пытаецца, калі і якое рашэнне прыняць? Усё робіцца ў інтарэсах асобных людзей.

Я нават не ведаю, што неабходна для таго, каб уздзейнічаць на прыняцце рашэнняў. Выйдзі ў далоні пахлопай – забяруць, пастой побач моўчкі – тое ж самае, а пачні гаварыць – увогуле пасадзяць.

**Аляксей:** Пэўны перыяд да 2011 года беларусы людзьмі пачалі сябе адчуваць, з'явілася магчымасць набыць нерухомасць, аўтамабіль, вывучыць дзяцей, з'ездзіць некуды на адпачынак… Што маем зараз? Крэдытамі людзей ставяць у залежнасць, а з чаго іх аддаваць? Абараніць свае інтарэсы мы не маем магчымасці, проста баімся за сябе і сваіх дзяцей.

**"ВГ":** Якія павінны быць дзеянні беларускай улады па абароне інтарэсаў сваіх спажыўцоў?

**Вячаслаў:** Нармальныя машыны не ў стане купіць больш за 80% беларусаў з-за заробкаў, якія не адпавядаюць сучасным цэнам. Новенькіх купюр і так ужо многа, павышэнне зарплаты ў 3 разы часткова вырашыла б некаторыя праблемы, але Беларусь не настолькі эканамічна моцная, каб самой выбрацца з крызісу.

**Анастасія:** Хто займаўся аўтамабільным бізнесам, той, верагодна, будзе працаваць з расійскім рынкам або займацца продажам запчастак ці сэрвісам. Абараніць інтарэсы спажыўцоў дзяржава можа, павысіўшы зарплаты, але гэта ў цяперашніх умовах нерэальна. Мы залежым ад Расіі і вымушаны згаджацца на яе ўмовы.

**Аляксей:** Часткова вырашыла б праблему і ўвядзенне льготнай растаможкі для грамадзян РБ, напрыклад, раз на 3 гады. Або наладжваць уласную вытворчасць якасных аўтамабіляў, але на цяперашнім крызісным этапе гэта не здаецца рэальным.

**Высновы**

Запчасткі даражэнныя, сэрвіс – яшчэ больш, на новае аўто няма з чаго адкладваць, перагляду рашэння аб пошлінах пакуль не плануецца. Беражыце аўтамабілі!!!

***Калі вас зацікавіла гэта тэма і ёсць уласнае меркаванне, дасылайце допісы ў "ВГ" або на сайт www.westki.info ці ўдзельнічайце ў абмеркаванні на www.prahrama.by.***

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Штотыдзень затрымоўваюцца парушальнікі прыродаахоўнага заканадаўства

Захаванне нашай прыроды, яе багаццяў, флоры і фаўны, барацьба з браканьерствамі і парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства, адно з асноўных кірункаў у працы Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Штотыдзень па ўсёй краіне супрацоўнікі інспекцыі затрымоўваюць дзясяткі браканьераў, канфіскоўваюць кіламетры браканьерскіх сетак, дзясяткі адзінак агнястрэльнай зброі, велізарную колькасць незаконна нарыхтаванай драўніны. Уся гэта праца сістэматычна асвятляецца ў сродках масавай інфармацыі, змешчаная на інтэрнэтсайце Дзяржінспекцыі. Аднак шмат якім грамадзянам хацелася б ведаць больш падрабязна пра парушальнікаў і мерах адказнасці, якія прынятыя да іх. Работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі гэтак жа штотыдзень затрымоўваюць парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, шматлікія матэрыялы накіроўваюцца ў раённыя суды для дачы дзеянням парушальнікаў прававой адзнакі.

Так, 10 ліпеня 2011 года работнікамі міжрайінспекцыі на возеры Мушкат паблізу г. Глыбокае затрыманы жыхар горада Шакола Аляксандр Аляксеевіч, які ажыццяўляў здабычу рыбы сеткамі, раённы суд вынес пакаранне за неправамерныя дзеянні ў памеры 10 базавых велічынь.

12 ліпеня 2011 года каля 22 гадзін работнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыяй на тэрыторыі Дварчанскай паляўнічай дачы Пастаўскага раёна за незаконнае паляванне з ужываннем дзвюх незарэгістраваных паляўнічых стрэльбаў затрыманы жыхары г. Паставы Каравацкі Павел Уладзіміравіч і Дзісько Іван Іванавіч. Суд Пастаўскага раёна вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 11 базавых велічынь і пазбаўленне права палявання на 4 месяцы кожнага, бо затрыманыя з'яўляліся паляўнічымі.

12 жніўня на возеры Сэрвач супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрыманы жыхар г. Мінска Арцёмаў Віктар Валянцінавіч, які ажыццяўляў здабычу рыбы сеткамі, раённы суд вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 10 базавых велічынь.

За здзейсненыя крадзеж сажалкавай рыбы ў рыбгасе «Навінкі» Пастаўскага раёна 30 жніўня 2011 года жыхар в. Казлоўшчына Дуброўскі Валерый Васільевіч падвергнуты штрафу ў памеры 12 базавых велічынь. 4 жніўня 2011 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Княж Шаркоўшчынскага раёна затрыманы жыхар в. Століца Рубніковіч Валерый Станіслававіч, які здабываў рыбу сеткамі, урон, які прычынены прыродным рэсурсам, склаў больш 3 млн. рублёў. Прыгавор Шаркоўшчынскага раённага суда па выніках разгляду крымінальнай справы – штраф у памеры 70 базавых велічынь са спагнаннем урону ў памеры 3 млн. 227 тысяч рублёў.

Можа прыведзеныя прыклады і накладзеныя пакаранні камусьці здадуцца малаважнымі, але для большасці парушальнікаў гэта вельмі вялікія грашовыя сумы і добры ўрок на будучыню.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачая лінія» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156 -28670. маб.: 897-23-02, 899-55-28, 249-45-49.



У вёсцы Белавуша (Брэсцкая вобласць, Столінскі раён) на рацэ Гарынь мясцовы жыхар Сяргей Сень злавіў спінінгам сома вагой у 51,5 кг.

## У гаражы ў мінчаніна знойдзена больш за 14 кг марыхуаны

30 верасня падчас рэалізацыі аператыўнай інфармацыі спецпадраздзяленне органаў пагранічнай службы ў адным з гаражна-будаўнічых кааператываў Мінска затрымала 37-гадовага жыхара сталіцы.

Як паведамілі ў прэсцэнтры Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Беларусі, мужчына ў арандаваным ім гаражы захоўваў 14,6 кілаграма марыхуаны. Падчас правядзення вобыску ў кватэры мінчаніна было знойдзена і канфіскавана 50 грамаў насення канопляў.

За незаконны абарот наркотыкаў у дачыненні да затрыманага распачата справа на падставе ч. 3 арт. 328 Крымінальнага кодэкса.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*




Чэмпіянат Беларусі па футболе (3-5 тур)

# ВАРТА ПРЫБАВІЦЬ У АТАЦЫ

## “Партызан” (Мінск) – “ПМЦ-1” (Паставы) – 4:7

■ Кастусь Александровіч

Яшчэ тры матчы нацыянальнага першынства з пераменным поспехам правялі пастаўскія футбалісты. Спачатку на выездзе яны прайгралі грозназму БАТЭ (Барысаў) з лікам 0:4. Адразу пасля завяршэння гэтага няпростага для гасцей матча на сталічным стадыёне БАТУ да пастаўчан падышоў і падбадзёрыў іх кіраўнік мэблевага цэнтра Анатоль Бабічаў. У папярэднім чэмпіянаце Беларусі па футболе вясной свайго саперніка юнакі ПМЦ перамаглі з лікам 1:0.

Аднак на гэты раз ім прыйшлося гуляць супраць іншых футбалістаў з БАТЭ на год-два старэйшых, якія вось-вось могуць быць залічаны ў склад самай моцнай на сёння айчыннай каманды, якая прабілася зноў у групавы этап розыгрышу прэстыжнай Лігі чэмпіёнаў УЕФА. Праўда, сёлета і надалей пастаўчанам прыйдзецца нялёгка, яны свядома заявіліся ў турнір старэйшага ўзросту і гуляюць пасутнасці з дублёрамі мацнейшых клубаў Беларусі.

Барысаўчане, якія прадстаўлялі трэці склад свайго клуба, зразумела, былі ў сустрэчы яўнымі фаварытамі, з самага пачатку загулялі на вялікіх хуткасцях. Пачатак матча іх сапернікі правалілі, спачатку парушылі правілы ў штрафной і прапусцілі хуткі гол з пенальці. Праўда, на 7-й хвіліне пастаўчане маглі аднавіць раўнавагу, але нападаючы Аляксей Пятрэнка прамарудзіў з ударам і пас свабоднаму партнёру насупраць пакінутых галкіперам барысаўскіх варот не аддаў. За гэта сапернік тут жа свайго канкурэнта пакараў другім узяццем варот. Толькі праз 20 хвілін сустрэчы пастаўчане прыйшлі ў сябе і здолелі на роўных гуляць з барысаўчанамі большую частку сустрэчы.

Аднак яшчэ двойчы госці груба памыліліся: у канцоўцы тайма і адразу пасля перапынку. Былі ў іх магчымасці правесці хоць бы гол прэстыжу ў адказ, але аказваліся недакладнымі завяршальныя ўдары, з-за праўмернага хвалявання сарваліся некалькі вельмі перспектыўных контратак. “Аднак у цэлым гульня ПМЦ спадабалася, - заўважыў пасля матча вядомы пастаўскім аматарам спорту, цяпер трэнер дубля БАТЭ, майстар спорту Уладзімір Нявінскі, - пастаўчане даволі перспектыўныя і пры ўмове далейшай напружанай працы могуць вырасці ў сапраўдных прафесійных футбалістаў”.

Гэты айчынны спецыяліст спецыяльна прыехаў паглядзець на гульню гасцей, а ў дэбютным сезоне 2006 года быў адным з лідараў каманды ПМЦ, якая стала гуляць у чэмпіянаце Беларусі ў 2-й лізе.Пахваліў сваіх падапечных за старанне і галоўны трэнер Сяргей Ясінскі і адзначыў, што такія хоць і прайграныя матчы – найлепшая школа для далейшага росту ігракоў, яны даюць значна болей, чым сустрэчы з аднагодкамі, аб’ектыўна слабейшымі па класу.

Упершыню ў гісторыі затым на двух стадыёнах Пастаў у выдатнае сонечнае надвор’е прайшлі днём адразу тры цікавыя матчы сезона. Большасць гледачоў аддалі перавагу наведванню стадыёна ПМЦ, дзе спачатку каманда “ПМЦ-2” выдатна настроілася на гульню зноў супраць лідара, таленавітых выхаванцаў (U-15) айчыннага суперклуба БАТЭ (Барысаў). Юныя пастаўчане ні ў чым не саступалі грознаму саперніку, валодалі тэрытарыяльнай перавагай і атрымалі заслужаную перамогу пасля ўдалай камбінацыі ў другім тайме, якую завяршыў зноў трапным ударам сын галоўнага трэнера Павел Ясінскі.

Дарослая каманда “ПМЦ-Паставы” у гэты момант на гарадскім стадыёне ў паядынку з “Лепелькай” з Лепеля згуляла ўнічыю з лікам 2:2.

Трэці матч гульнявога дня завяршыўся крыўдным паражэннем старэйшай юнацкай каманды “ПМЦ” з лікам 1:2 ад гродзенскага “Нёмана”. Тым не менш, апладысментамі амаль паўтысячы гледачоў праводзілі хлопцаў з поля. Справа ў тым, што юныя пастаўчане ў сустрэчы з гродзенцамі поўнасцю перайгравалі сваіх апанентаў, прадэманстравалі прыгожую, атакуючую гульню. Гаспадары ўжо на 10-й хвіліне павялі ў ліку, калі Аляксей Пятрэнка ўдала згуляў галавой у падзенні. Па ходзе сустрэчы галявых сітуацый ля варот “Нёмана” было яшчэ каля дзесяці, але дабіцца поспеху гаспадары больш не здолелі.

У сваю чаргу няўпэўнена згуляў варатар пастаўчан Дзяніс Місюс, памыліўся двойчы ў простых сітуацыях, што і стала адной з галоўных прычын крыўднага паражэння. Напрыканцы гэтай сустрэчы ў пастаўчан мог быць з’явіцца шанец звесці сустрэчу хоць бы да нічыёй. У сваёй штрафной пляцоўцы гродзенцы збілі нападаючага ПМЦ Аляксея Пятрэнку, аднак гэты эпізод застаўся па-за ўвагай суддзі матча. На апошніх хвілінах драматычнага паядынку госці адбіваліся з апошніх сіл і да сваёй радасці здолелі перамагчы саперніка, які значна лепш за іх выглядаў на полі. Аднак у футболе час ад часу здараюцца і падобныя кур’ёзы.

Гульнявыя магчымасці свайго наступнага саперніка, сталічнага “Партызана” пастаўчане добра ведалі, бо зімой у футбольным манежы перамаглі мінчан у трэніровачным матчы з буйным лікам 6:2. І на гэты раз госці прадэманстравалі ўпэўненую, выніковую гульню і зноў дабіліся пераканаўчай перамогі на стадыёне спорткомплекса “Алімпійскі” у Мінску. Падобна на тое, што каманда ПМЦ зрабіла правільныя высновы пасля крыўднай асечкі дома з гродзенцамі і нарэшце стала рэалізоўваць свае галявыя моманты.

Ужо на 1-й хвіліне ў складзе гасцей лік адкрыў прыгожым навясным ударам здалёк цэнтрфорвард і пакуль лепшы бамбардзір (5 галоў) Аляксей Пятрэнка. Ён жа яшчэ праз 5 хвілін завяршыў трапным ударам імклівую флангавую атаку, а праз паўгадзіны гульні забіў самы прыгожы гол сустрэчы ў скачку ўдарам галавой. Пастаўчане гулялі хутчэй свайго саперніка, трывала кантралівалі мяч і раз за разам проста разрывалі абарончыя рэдуты мінчан. На 15-й хвіліне паядынку вызначыўся крайні нападаючы гасцей Кірыл Сідарэнка, які абыграў свайго апекуна і не пакінуў шанцаў варатару “Партызана”.

У гэтай сустрэчы ў складзе пастаўчан вельмі надзейна згуляў нарэшце і варатар Дзяніс Місюс, хоць і прапусціў чатыры мячы ў свае вароты. Але ў азначаных эпізодах абаронцы гасцей дапускалі грубыя памылкі, да дзеянняў гэтай лініі ў трэнераў ПМЦ былі абгрунтаваныя прэтэнзіі. На перапынак каманды пайшлі з лікам 1:4 на карысць пастаўчан. У другім тайме гаспадары актывізаваліся і нават двойчы скарачалі розніцу да двух мячоў. Аднак у гэтыя напружаныя моманты паядынку госці працягвалі гуляць камбінацыйна, у іх атрымлівалася праводзіць хуткасныя контратакі.

У адным з эпізодаў выдатна згуляў у штрафной пляцоўцы мінчан выйшаўшы на замену Яўген Латышаў, які абыграў фінтамі двух абаронцаў і прабіў у верхні вугал – 3:6. Высокае індывідуальнае майстэрства прадэманстраваў і хуткасны паўабаронца Ігар Пукаў. Ён двойчы згуляў, як спрактыкаваны майстар, правёў 2 мячы і ўсталяваў канчатковы вынік сустрэчы. Пасля гэтай буйной перамогі каманда ПМЦ з 11-га месца перамясцілася ў сярэдзіну турнірнай табліцы. Цяпер да хлопцаў можа вярнуцца і псіхалагічная ўпэўненасць у сваіх сілах. Гульнявы патэнцыял пастаўчан павінен яшчэ больш узмацніцца пасля вяртання ў каманду з маладзёжнай зборнай Беларусі нападаючага Васіля Журневіча, якая няблага згуляла ў Венгрыі на адборачным турніры на чэмпіянат Еўропы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

10 – 16 кастрычніка 2011 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 10 кастрычніка



**06.00, 07.10, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Новости.
**07.05, 08.05** «Зона Х». Дорожные новости.
**07.30, 08.25** Деловая жизнь.
**08.30** Культурные люди.
**09.10 «Маргоша»**
**10.05** «Звездные вдовы».
**11.05 «Дыши со мной»**
**12.10 «Байкер»**
**13.50** Здоровье.
**14.20** Видеофильм АТН «Точка отсчета. Словацкий серпантин».
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** Комедия **«Дюплекс»** (США-Германия).
**17.00 «Маргоша»**
**17.55 «Дыши со мной»**
**18.50** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55** Премьера. **«Робинзон»** (Россия). 1-я серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**22.00 «Элитный отряд»**
**00.15** День спорта.
**00.30** Фильм «Сергей Зверев».



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00** Наши новости.
**06.10** «Наше утро».
**09.10**Контуры.
**10.15** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Затерянный мир».**
**12.00** Премьера. «Марк Бернес. «Мы за-молкаем, глядя в небеса...».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10**«Модныйприговор».
**15.10 «Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. **«Участковый детектив».**
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Фазенда по-советски или заветные сотки».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10 «Атлантида»**
**23.10** Премьера. «Юлиан Семенов . Он слишком много знал...».
**00.10** «След».
**01.30-02.00** Ночные новости.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ты моя жизнь»**
**09.00 «Барвиха»**
**10.00** Альбарутения.
**10.35** Концерт «Electric Light Orchestra (ELO). Zoom Tour Live».
**12.25** Реальный мир.
**12.50** Романтическая комедия **«Влюбиться в невесту брата»** (США).
**14.40** Навіны надвор'я.
**15.10** Час суда. Дела семейные.
**16.15** Врачебные тайны
**16.50** Мелодрама **«Подружка Осень»** (Беларусь-Россия). 1-я серия.



**18.00 «Ты моя жизнь»**
**19.00 «Барвиха»**
**19.55** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Концерт «Electric Light Orchestra(ELO). Zoom Tour Live».
**23.10** Овертайм.
**23.40** Мелодрама **«Подружка Осень»** (Беларусь-Россия). 1-я серия.
**00.30** Реальный мир.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Большой город».
**11.15** «Дальние родственники».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Огонь любви».** Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт М.Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви».** Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35**«Кинопонедельник»: **«МАМА НЕ ГОРЮЙ».** Россия, 1997 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00 Т**ыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40 З**она «Свабоды»
**8:10 «Акварыум»**: 4 серыя
**9:00** Прэс-экспрэс
**9:15** Беларускія лёсы: «Вацлаў Іваноўскі», рэпартаж, 2009 г., Беларусь
**9:35** Эксперт
**10:00 «Танцы з ваўкамі»**
**12:35** «1945: год, які змяніў свет» , дак. фільм, рэж. Гэбі Кент, 2005 г., Вялікая Брытанія: 1 серыя
**13:20** Эксперт
**13:50** ПраСвет
**14:15** Моўнік
**14:25 «Танцы з ваўкамі»**
**17:00** «Мой родны горад»: 13 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** Невядомая Беларусь: «КПСС – прыгоннае права Савецкага Саюзу», дак. фільм, 2011 г., Беларусь
**18:35** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Дзеці-тулягі», дак. фільм, рэж. Юзэф Гэмбскі, 2011 г., Польшча: 1 серыя
**19:20** Вагон
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:30** «Верная», дак. фільм, рэж. Насця Тарасава (Настя Тарасова), 2008 г., Расея
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:55 «Танцы з ваўкамі»**
**0:20** Аб'ектыў
**0:45** Гарачы каментар

